# Голас Радзімы

№ 21 (2163)
24 мая 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




Я ДАСТАЎ дубэльты, працёр шкло, дзе за зіму сабралася многа пылу, і адчыніў акно. У пакой уляцела хваля прахалоднага чыстага паветра, поўнага густога паху, буркатанне галубоў, ледзь улоўны мілагучны голас жаўрука ў небе і свіст шпака ля шпакоўні.

«Якая радасць жыцця!» — падумаў і ўздыхнуў на поўныя грудзі.

ЦІХАЯ чаруючая раніца: дыхаецца лёгка, пахне прахалодаю. З-за лесу выглянула сарамлівае сонца, і яму заўсміхаліся бадзёрыя маладыя лісточкі на кустах парэчак і агрэсту.

На суседні плот узляцеў чырвоны певень з шышастым грэбенем, замахаў крыламі і закукарэкаў.

«Чаго ён галосіць! — падумаў я. — Відаць, гукае «добрай раніцы, людзі!», магчыма «гэта мой двор». А можа хваліцца, які ён галасісты і прыгожы».

ВЫБРАЛІСЯ з унукам у лес. Першымі нас сустрэлі кусты ядлоўцу, нібы вартавыя, і разгалістыя бярэзіны на ўскрайку лесу. Адна з іх крыху ў глыбіні, відаць, зайздросна так імкнулася да сонца, каб перагнаць сваіх суседак, што не разлічыла сілы і сагнулася, не могучы стаяць... Усе хочуць жыць, і яна таксама, бо і на ёй ажылі салатавыя клейкія лісточкі. «Дарэмна», — пашкадаваў я яе.

Ідзём далей віхлястаю сцяжынкаю. Гоман птушак напоўніў лес, лясны чорны дрозд гучна высвістваў вясновую песню.

Час прабег хутка, сонца падбіралася пад поўдзень, нашы цені былі кароткія, і раптам на сцяжынку з-пад куста выскачыла зялёная яшчарка. Яна затрымалася, выпучыла на нас свае лупатыя вочы. «Чаго вы тут!» — нібы здзівілася яна.

ПА РАДЫЁ гучала перадача да 45-годдзя Перамогі. А мне нагадаўся наш партызанскі лагер вясною. Усе спалі, толькі я, вартавы, хадзіў ля зямлянак, раздаваў дрыжыкі і слухаў, як шэпчуць яліны.

Ціхі быў світанак. Спакойны ветрык нясмела калыхаў галінкі ялін, лянота панавала навокал і над лагерам.

«Скора прачнуцца сябры, — падумаў я, — і пачнём збірацца ў паход. Магчыма хто і не вернецца, не ўбачыць гэтае прыгажосці». Вось як яно бывае ў жыцці.

Яўген КРАМКО.

Фота С. КРЫЦКАГА.

СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР



# ЦЯЖКІЯ ЎРОКІ ДЭМАКРАТЫІ

15 мая ў Мінску пачала работу першая сесія Вярхоўнага Савета БССР дванаццатага склікання. На сваіх першых пасяджэннях дэпутаты абмеркавалі і зацвердзілі парадак дня работы ўсёй сесіі. У выніку ў яго быў ўключаны трыццаць адзін пункт. У час дыскусіі найбольш гарачую рэакцыю выклікала прапанова аб рэгістрацыі Беларускага народнага фронта «Адраджэнне». Думкі падзяліліся. Вось найбольш характэрныя аргументы бакоў. С. Шабашоў: «Лічу рэгістрацыю дачаснай, паколькі ў краіне яшчэ няма закона аб грамадскіх арганізацыях». С. Навумчык: «Дабівацца грамадзянскіх правоў для «Адраджэння» — іменна гэта мэта была асноўнай у перадвыбарных праграмах значнай часткі дэпутатаў». Неабходнай большасці ад прыняўшых удзел у галасаванні не набралася. Па ініцыятыве дэпутата Г. Казлова сесія вырашыла перадаць яе на разгляд Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета БССР па пытаннях заканадаўства. Справаздача Савета Міністраў рэспублікі аб праведзенай рабоце і мерах па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС у першапачатковым варыянце значылася пад нумарам 18. Дэпутаты прынялі рашэнне перамясціць яе на адзінаццатую пазіцыю, улічыўшы пры гэтым просьбу Старшыні Савета Міністраў БССР В. Кебіча даць ураду час для падрыхтоўкі канкрэтных прапаноў.

На наступным пася[illegible]джэнні была заслу[illegible] справаздача Ма[illegible]най камісіі. Яе старшыня дэпутат В. Ляонаў сярод іншага паведаміў, што ўсяго выбрана 328 народных дэпутатаў БССР. [illegible]ральная камісія [illegible]гістравала ўсіх. 295 чалавек, або 90 працэнтаў, раней у Вярхоўны Савет Беларусі не выбіраліся, 290 дэпутатаў — члены і кандыдаты ў члены КПСС, а гэта 88,1 працэнта ўсяго дэпутацкага корпуса. Камсамольцаў — чацвёра, жанчын — 11, маладых людзей да 30 гадоў — 9. Беларусаў сярод дэпутатаў— 242 (73,6 працэнта), рускіх — 19,5, украінцаў — 3,6, палякаў— 3 працэнты, яўрэй —1.

Дакладчык адзначыў: члены Мандатнай камісіі лічаць, што ў законах аб выбарах ёсць недасканаласці і недапрацоўкі. У выніку гэтага неадназначна растлумачваліся некаторыя палажэнні законаў, што выклікала крытыку з боку выбаршчыкаў і скаргі ў ходзе прымянення асобных іх норм.

Пасля гэтага дэпутаты пачалі разгляд пункта пятага павесткі дня: «Аб парадку выбрання Старшыні Вярхоўнага Савета БССР». Дыскусія з самага пачатку разгарэлася надзвычай вострая і часам залішне эмацыянальная і ў рэшце рэшт завяршылася вылучэннем кандыдатур на пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Былі названы чатыры прэтэндэнты — дэпутаты М. Дземянцей, С. Шушкевіч, У. Кавалёнак і Р. Вячэрскі, які вылучыў сябе сам. Пазней Р. Вячэрскі сваю кандыдатуру зняў.

Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларускай ССР выбраны М. Дземянцей, першым намеснікам Старшыні— С. Шушкевіч, намеснікам — В. Шаладонаў.

Наогул, першыя дні работы сесіі пакідаюць неадназначныя ўражанні. Ёсць зрывы, перахлісты эмоцый, недахоп кампет[illegible]асці некаторых [illegible]б. Але новы бела[illegible]скі парламент пакуль яшчэ толькі вучыцца сапраўднай заканатворчай рабоце, вучыцца дэмакратыі.

У сувязі з пра[illegible]нем свята славя[illegible]кай пісьменнасці работа сесіі перапынена да 29 мая.

**НА ЗДЫМКУ:** у зале пасяджэнняў.

УРАДАВАЯ ПРАГРАМА

## ПРЫЯРЫТЭТ КУЛЬТУРЫ

Другі раз за нядоўгі тэрмін свайго знаходжання на пасадзе прэм'ера сустрэўся В. Кебіч з дзеячамі беларускай культуры. Размова адбылася напярэдадні адкрыцця сесіі Вярхоўнага Савета БССР, дзе ўраду трэба будзе прадставіць на суд дэпутатаў праграму сваёй дзейнасці. Разам з пісьменнікамі, мастакамі, архітэктарамі, кампазітарамі, дызайнерамі, акцёрамі Старшыня Савета Міністраў вырашыў расставіць у ёй апошнія, магчыма, самыя важныя акцэнты.

А пачалася размова аб беларускай культуры з праблем эканамічных. У іх цеснай узаемасувязі і ўзаемазалежнасці нікога з прысутных пераконваць не трэба было. Як падкрэсліў В. Кебіч, многія сённяшнія беды ў духоўнай сферы былі запраграміраваны лічбай 0,75 працэнта — менавіта такая частка бюджэту расходавалася доўгі час на культурныя запатрабаванні нацыі. Новы ўрад прапануе ўжо ў 1991 годзе павялічыць гэту лічбу як мінімум да трох працэнтаў. Але справа не толькі ў змяненні інвестыцыйных прыярытэтаў. У грамадстве, якое ахоплена эканамічным крызісам, проста немагчыма нармальнае развіццё культуры. Незабяспечаныя жыллём і нармальнымі прадуктамі харчавання, дрэнна апранутыя, знерваваныя бясконцымі чэргамі, людзі наўрад ці зацікавяцца музыкай або тэатрам. Вось чаму перспектывы гаспадарчага развіцця рэспублікі зацікавілі ўсіх удзельнікаў сустрэчы.

У цэлым згадзіўшыся з эканамічнай праграмай урада, удзельнікі сустрэчы прапанавалі значна дапоўніць і расшырыць яе культурны раздзел. Занадта ўжо многа неадкладных праблем накапілася ў гэтай сферы. А тут паявілася такая, пакуль яшчэ нячастая, магчымасць расказаць аб іх кіраўніку ўрада, напрамую папрасіць дапамогі. Патрэбны новыя будынкі тэатральна-мастацкаму інстытуту, кансерваторыі, мастацкаму музею. На ўрад галоўная надзея і ў рэалізацыі праграмы адраджэння беларускай мовы. Сярод неадкладных задач — павышэнне зарплаты работнікам культуры, дзяржаўная дапамога кінастудыі «Беларусьфільм», забеспячэнне паперай выдавецтваў...

Але сустрэча ў Саўміне зусім не была падобна на дзяльбу пірага, калі адны просяць, другія даюць. «Культура можа грошы не толькі траціць, але і зарабляць», — упэўнены паэт Уладзімір Някляеў. Узровень беларускіх мастацкіх промыслаў такі высокі, што іх вырабы гэтак жа, як і карціны, скульптуры, кінапрадукцыя, могуць за немалыя цэны прадавацца на міжнародным рынку.

Хто ўсім гэтым будзе займацца? Хто паклапоціцца, каб немалыя народныя грошы, што накіроўваюцца ў сферу культуры, траціліся не на пампезныя палацы, а выкарыстоўваліся сапраўды эфектыўна? Ураду цяжка разлічваць на поспех нават у сваіх самых добрых пачынаннях, калі яны не будуць спачатку абмеркаваны, а затым і падтрыманы дзеячамі культуры. І тут, на думку прысутных, не абысціся без грамадскага савета — добраахвотнага памочніка і кансультанта прэм'ер-міністра. Такі орган тым больш неабходны, што ў Вярхоўным Савеце рэспублікі вельмі мала дзеячаў культуры. Савет па пытаннях культуры зможа кансалідаваць інтэлігенцыю рэспублікі, накіраваць яе энергію ў напрамак стваральнай работы па нацыянальнаму і культурнаму адраджэнню рэспублікі.

ПРАФСАЮЗЫ

## НАПЕРАДЗЕ АБНАЎЛЕННЕ

Пераадолець нарастаючы крызіс давер'я да грамадска-палітычных структур, уключаючы і прафсаюзы, можна толькі актыўнымі дзеяннямі. Прафсаюзы павінны стаць раўнапраўным партнёрам, а пры неабходнасці і апанентам ураду рэспублікі, выканаўчым і гаспадарчым органам. Аб гэтым, як аб карэнным абнаўленні сваёй дзейнасці, гаварылі ўдзельнікі пленума Беларускага рэспубліканскага савета прафесіянальных саюзаў.

— Паўнамоцтвы цяперашняга складу рэспубліканскага саветаканчаюцца толькі ў канцы 1991 года, — сказаў старшыня Белсаўпрофа У. Ганчарык. — Але жыццё, якое імкліва мяняецца, — рэальнасць шматпартыйнасці, спробы стварыць альтэрнатыўныя прафаб'яднанні, прынцыпова іншыя працоўныя адносіны, абумоўленыя прыняццем законаў аб уласнасці, зямлі, арэндзе, асновах мясцовага самакіравання, дыктуе неабходнасць стварэння новага кампетэнтнага прафсаюзнага органа. Выбраць яго мае права толькі з'езд прафсаюзаў БССР.

Пры абмеркаванні канцэпцыі прафсаюзаў Беларусі ўсе сыходзіліся на тым, што яны павінны быць незалежныя ад партый, дзяржаўных і іншых органаў, вольныя ў сваіх дзеяннях у рамках Канстытуцыі і законаў краіны і рэспублікі, здольныя абараніць інтарэсы працоўных.

ДА ЮБІЛЕЮ

## ПАД ЗНАКАМ СКАРЫНЫ

Мемарыял Францыска Скарыны адкрыты ў Беларускім тэхналагічнм інстытуце. Жывапісныя пано і скульптурны партрэт, выкананыя маладымі мастакамі Генадзем Лойкам, Генадзем Драздовым і Пятром Русаком, расказваюць пра асветніцкую дзейнасць і жыццёвы шлях нашага вялікага земляка.

— Мы зусім не збіраліся памнажаць колькасць афіцыяльных помнікаў, да якіх прыносяць кветкі толькі ў рэдкія дні юбілеяў, — расказвае прэзідэнт інстытуцкага Скарынаўскага клуба Мікалай Цмыг. — Хацелася адрадзіць у сценах інстытута высокі дух асветніка і вучонага — дух нацыянальнай беларускай культуры. Таму і месца для роспісу выбралі не ў аўдыторыі, а ў адным з холаў, дзе заўсёды мнагалюдна, і Скарына будзе як бы прысутнічаць сярод так любімага ім студэнцтва.

Мемарыял — частка вялікай і шматграннай культурнай работы, пачатай у інстытуце два гады назад па ініцыятыве яго рэктара І. Жарскага. Сёння тут на беларускай мове чытаюцца многія лекцыі, упершыню ў інстытуце такога профілю ўведзены спецыяльны курс «Гісторыя беларускай культуры». Распрацоўваецца даўгачасная праграма беларусізацыі педагагічнага працэсу. Словам, на справе ажыццяўляецца адна з асноватворных ідэй Ф. Скарыны: даваць веды народу на яго роднай мове. Толькі так, упэўнены выкладчыкі, можна падрыхтаваць не проста адукаваных, кваліфікаваных спецыялістаў, а па-сапраўднаму інтэлігентных, духоўна багатых людзей.

ВЫСТАЎКА



**У мінскім магазіне «Медтэхніка» адкрылася выстаўка абсталявання з Рэспублікі Польшча. Арганізатар экспазіцыі—таварыства замежнага гандлю «Лабімэкс». Яго членамі з'яўляюцца 34 самастойныя арганізацыі — вядомыя заводы-вытворцы навукова-даследчай і лабараторнай апаратуры некаторых відаў медыцынскай тэхнікі. Мэта выстаўкі—заключэнне кантрактаў на пастаўку найноўшага медыцынскага абсталявання лячэбным установам Беларусі.**
**НА ЗДЫМКУ: у залах выстаўкі.**

ДАПАМОГА

## ДЗЕЦЯМ ЧАРНОБЫЛЯ

Летні адпачынак 500 дзяцей з раёнаў, якія пацярпелі ў выніку чарнобыльскай катастрофы, будзе фінансаваць арганізацыя «Новы форум» Берліна. Разам з камітэтам «Дзеці Чарнобыля» і фракцыяй аб'яднання «Саюз-90» і «Зялёных» у Народнай палаце ГДР яны арганізуюць летні адпачынак савецкіх дзяцей, якія правядуць яго разам са сваімі равеснікамі ў пансіянатах, дамах адпачынку і ў сем'ях грамадзян ГДР. Пад наглядам урачоў яны падужэюць, збавяцца ад недамагання, выкліканага гіпадынаміяй, пазнаёмяцца з выдатнымі мясцінамі рэспублікі.

Арганізацыя адпачынку каля тысячы савецкіх дзяцей на працягу лета будзе фінансавацца ў тым ліку і за кошт добраахвотных узносаў грамадзян, царкоўных і іншых арганізацый краіны, якія адгукнуліся на заклік «Саюза-90» падтрымаць фонд дапамогі дзецям Чарнобыля. Пасол СССР у ГДР В. Качамасаў пацвердзіў гатоўнасць аказаць арганізатарам гэтай высакароднай акцыі неабходнае садзейнічанне ў спрашчэнні непазбежных фармальнасцей пры арганізацыі прыезду і ад'езду дзяцей.

СВЕТ ДЗЕЛАВЫХ ЛЮДЗЕЙ

## ДЗЕ ВУЧАЦЬ МЕНЕДЖЭРАЎ?

Утворана Беларускае аддзяленне Саюза менеджэраў СССР. Новая творчая грамадская арганізацыя аб'ядноўвае кіраўнікоў, вучоных і спецыялістаў у галіне кіравання і арганізацыі вытворчасці, сферы абслугоўвання, культуры, аховы здароўя, камерцыі.

— Галоўная наша задача — рыхтаваць такіх прадпрымальнікаў, якія ўмелі б наладжваць новыя адносіны ў эканоміцы, расшыраць перабудовачныя працэсы, — гаворыць старшыня праўлення Беларускага аддзялення, член прэзідыума Саюза менеджэраў Сяргей Галубенка.

## ЛІСТ З-ЗА МЯЖЫ

Добры дзень, паважаны рэдактар!

Атрымаў я ваша пісьмо, прыемна мне, што вы адказалі, і тут жа пастараюся па магчымасці адпісаць. Загадзя прашу прабачэння за памылкі, таму што я мала пішу тут на вашай мове, хіба што пісьмы і віншавальныя паштоўкі на святы. Гэта трэці раз, як я пішу, усё неяк не атрымлівалася ў мяне, тым больш, што пра сябе — першы раз. Я ж не журналіст і не пісьменнік, але вырашыў вам напісаць усё, што магу. Вы можаце перакрэсліць ці выкінуць тое, што нецікава, але давайце спачатку дамовімся: усё, што я напішу цяпер,—гэта чыстая праўда, а не толькі пахвала.

# АДУКАЦЫЮ АТРЫМАЎ У МІНСКУ

Аб сабе. Нарадзіўся ў 1956 годзе ў шматдзетнай сям'і, скончыў школу ў 1975-м (12 класаў). Жыццё ішло, як і ў большасці простых людзей. На працягу апошніх трох гадоў школьнага жыцця я марыў паехаць на вучобу ў СССР і спадзяваўся, што гэта атрымаецца ў мяне. Так яно і выйшла.

У верасні 1975 года я ўпершыню ў сваім жыцці саджуся ў самалёт, сэрца б'ецца, ціск павышаецца, пот льецца, страх напалавіну з радасцю. Прыляцелі позна ноччу. Халаднавата, розніца ў тэмпературы 20 градусаў. Пяць гадзін назад дома было 35, а ў Маскве 15 градусаў. Мяне з адным земляком накіравалі ў Мінск. Калі шчыра, то нас вельмі засмуціла, што мы едзем у нейкі Мінск, таму што мы ведалі толькі Маскву, Ленінград і Кіеў. Мы, засмучаныя, неахвотна паехалі, і зноў на новым для нас відзе транспарту—хуткім цягніку. У ім кідаецца ў вочы чысціня, выпрасаваныя белыя прасціны, ручнікі, абрусы, шторы на вокнах і прыгожая форма на прыгожых гасцінных беларускіх праваднiцах, якія пачаставалі нас чаем з пячэннем. А глядзіш у акно—такая прыгажосць: усюды зеляніна, лясы, палі! Тут трэба быць паэтам.

Прыехалі мы каля 9 гадзін раніцы. Выйшлі з цягніка, пастаялі на пероне і не ведалі, куды ісці. Раптам падыходзіць да нас прыемная пажылая жанчына і гаворыць на не вельмі зразумелай арабскай мове: «Салам алейкум». Мы так абрадаваліся, што нарэшце знайшоўся чалавек, з якім маглі б пагаманіць. Падарыла яна нам па кветцы і падвяла да аўтобуса, які чакаў побач.

Паступілі мы ў БДУ на падрыхтоўчы факультэт. Пасля БДУ—у БПІ, на будаўнічы факультэт па спецыяльнасці прамысловае і грамадзянскае будаўніцтва. Гады беглі хутка.

Успамінаў вельмі-вельмі многа захавалася ў памяці. У адным пісьме немагчыма расказаць, але тое-сёе можна напісаць. Памятаю, што мая першая выкладчыца была для мяне як мама. Яна глядзела, каб я быў цёпла апрануты, калі холадна, каб хатняе заданне правільна рабіў. І нават, каб пісьмы дамоў пісаў. Яна вадзіла нас у тэатры, на балет, v оперу. Глядзелі фільмы [illegible] вайну. Яна паказвала на[illegible] апраўднае савецкае культурнае жыццё ў яго шырокім сэнсе. Памятаю, жылі ў інтэрнаце № 5 на Кастрычніцкай вуліцы. Тош[illegible]ікаў Слава, Плахоцкі Вова. [illegible]-в'етнамец і я ў адным п[illegible]. Жылі як адна сям'я. У памяці захавалася, што беларусы ставіліся да нас, я б сказаў, вельмі добра.

Мне даводзілася не раз сустракацца з людзьмі розных нацыянальнасцей, але для мяне ўвесь час самая простая, самая добрая, самая любімая была і ёсць беларуская.

Аб узважанай ацэнцы вашага ладу жыцця з яе станоўчымі і адмоўнымі бакамі можна цэлую кнігу напісаць. Па кожным баку дастаткова прывесці два-тры прыклады. Але гэта абсалютна не значыць, што станоўчага столькі ж, колькі адмоўнага. Зразумела, станоўчага больш. І, думаю, вы згодзіцеся са мной, што няма на зямлі ідэальнага ладу. Адмоўна тое, што часта здараецца ў рэстаранах: вольных месцаў многа ўнутры, а на дзвярах шыльда «Месцаў няма». І безгаспадарчасць. У магазіне запалкі каштуюць ўсяго адну капейку. А трэба выбіць чэк — дык папера гэтая ж абыходзіцца дзяржаве таксама ў капейку. Выходзіць, запалкі даюць бясплатна. Адмоўна таксама, што табе трэба бывае пераначаваць у Маскве ў гасцініцы каля аэрапорта. Яна ж для гэтага і пабудавана, каб пасажыры там спалі. А туды цябе не ўпусціць швейцар, нягледзячы на тое, што ёсць 95 працэнтаў вольных месцаў. Не пусціць, таму што яму проста так хочацца. Спытаецеся, чаму так? Пасажыру дрэнна, і дзяржаве менш даходу. А швейцар усё роўна сваю зарплату атрымае ў канцы месяца. Што бюракратызм — з'ява адмоўная, вы, па-мойму, згодныя са мной.

А станоўчае? Я думаю, усё астатняе і, у першую чаргу, клопат пра дзяцей.

Дзе я зараз працую? Наколькі спатрэбіліся мне веды, атрыманыя ў СССР? Як я ацэньваю ўвогуле ўзровень падрыхтоўкі спецыялістаў у Мінску? Працую я ў муніцыпалітэце горада Ажлуна ўжо восьмы год інжынерам па тэхнічнай частцы. Веды, атрыманыя ў СССР, спатрэбіліся. Магу смела сказаць: і падрыхтоўка вельмі добрая, і была б яшчэ лепшай, калі б выпускнікі Саюза лепш авалодвалі англійскай мовай. У нас у краіне ў гэтым часта ёсць неабходнасць.

У адносінах узроўню прафесіянальнай падрыхтоўкі спецыялістаў у Мінску я скажу, што параўноўваю іншы раз выпускнікоў Мінска з выпускнікамі іншых гарадоў СССР. У мяне выходзіць, што першыя—лепш падрыхтаваныя, яны і лепш размаўляюць па-руску.

Сардэчнае прывітанне ўсім беларусам і гораду-герою Мінску.

**Зубі ХАЛІД.**

Іарданія.

# ВІНШУЮЦЬ ЗЕМЛЯКІ

**Віншую супрацоўнікаў газеты «Голас Радзімы» з Першым мая, Днём міжнароднай салідарнасці, і са святам Перамогі! Жадаю вам поспехаў, моцнага здароўя, добрага настрою, шчасця і дабрабыту. Мірнага неба ва ўсім свеце!**

**Хай беларускія суайчыннікі, што жывуць на ўсіх мацерыках планеты Зямля, заўжды захоўваюць памяць аб краіне іх бацькоў, беларускай зямлі, аб яе лясах і палях, родным слове. І, галоўнае, каб памяталі, што ключ ад беларускай гісторыі і культуры—гэта цудоўная беларуская мова. Душой я з вамі ў Мінску.**

**З павагай**

**Юрый РАСАДЗІНСКІ.**

Аўстралія.

**Паважаныя супрацоўнікі таварыства «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы»!**

**Ад усёй душы віншую вас са святам вясны і працы.**

**З найлепшымі пажаданнямі**

**Мельсіда МАРАНЯН.**

Сірыя.

**Паважаныя сябры ў Беларускім таварыстве «Радзіма»!**

**Дазвольце павіншаваць вас усіх са святам Першае мая. Ад душы жадаю ўсяго найлепшага ў вашых асабістых і грамадскіх справах.**

**З павагай да вас**

**Ніна ЯКУШАВА.**

Нідэрланды.

**Паважаныя сябры!**

**Сардэчна віншуем супрацоўнікаў таварыства «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы» са святам вясны, сонца і міру, салідарнасці працоўных 1 Мая, а таксама з 45-й гадавінай Вялікай Перамогі!**

**Жадаем моцнага здароўя, поспехаў у вашай высакароднай працы ў імя дабрабыту, умацавання дружбы паміж народамі. Дзякуй, што вы многа робіце для нас, тых, хто жыве на чужыне.**

**Вялікае прывітанне ад усяго нашага калектыву з гарадоў Рэйвер, Хеерлен, Нут, Маастрыхт і іншых.**

**Са шчырай павагай да вас**

**сем'і Таісы КУПЕРУС-МАРЧАНКІ і КУПЕРУС Ван-Хаер.**

Нідэрланды.

**Дарагія мае!**

**Віншую вас са святам вясны 1 Мая, а таксама 9 Мая—45 гадоў Перамогі. Колькі пражыта за гэты час! А, здаецца, так усё хутка прабегла. Спадзяюся, што ўсё будзе добра і ў нас на Радзіме. Жадаю вам, дарагой Беларусі ўсяго самага найлепшага.**

**З[illegible]ды ваша**

**Леанарда МАЛЕЕВА.**

Італія.

**Дарагія сябры!**

**Сардэчна віншую супрацоўнікаў таварыства «Радзіма» з Першамаем, Днём салідарнасці працоўных усіх краін свету.**

**П[illegible]іце мае віншаванні і з Днём Перамогі. Жадаю вам мо[illegible] здароўя, шчасця, поспехаў у вашай дзейнасці. І яшчэ —цёплага лета.**

**З павагай**

**Валянціна ПАРТЭНГЕН.**

Нідэрланды.

**Паважаныя супрацоўнікі таварыства «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы»!**

**Прыміце нашы сардэчныя віншаванні з Міжнародным днём салідарнасці працоўных—1 Мая!**

**Асаблівыя віншаванні вам з нашым вялікім святам, Днём Перамогі—45-годдзем вызвалення народаў зямлі ад фашысцкіх захопнікаў!**

**З найлепшымі пажаданнямі**

**праўленне таварыства «Отчизна».**

Нідэрланды.

## ПРАПАНУЮ ПІСАЦЬ МНЕ НА АДРАС...

Паважаная рэдакцыя!

У мяне ёсць жаданне мець перапіску з суайчыннікамі за мяжой. Вось чаму я звяртаюся да вас і вельмі прашу надрукаваць мой адрас і «візітную картку».

Я інжынер, працую на аб'яднанні «Гарызонт», мне 31 год, нарадзіўся ў Мінску. Жонка працуе ў тым жа аб'яднанні праграмістам, нарадзілася ў Бабруйску. Сыну 4 гады. Я і жонка—беларусы.

**Наш адрас: БССР, 220121, г. Мінск, вул. Глебкі, д. 24, кв. 56. КУШНЕРУ Аляксандру Аляксандравічу.**

Добры дзень!

Маё імя Вольга. Мне дванаццаць гадоў. У адным з нумароў вашай газеты я прачытала артыкул пад назвай «Прапаную пісаць мне на адрас...». У нашым класе многія вучні вядуць перапіску з дзецьмі з-за мяжы. Нядаўна ў піянерскім лагеры я таксама пазнаёмілася і пасябравала з дзяўчынкамі з ГДР і ЗША. Але ж яны, як кажуць, іншаземцы, а мне б хацелася пасябраваць з дзецьмі суайчыннікаў, якія жывуць за мяжой. Цікава ведаць, як яны ставяцца да роднай мовы, культуры і зямлі сваіх продкаў.

Ці не дапаможаце вы мне? Буду вельмі ўдзячная.

**Мой адрас: БССР, 220067, г. Мінск, вул. Русіянава, д. 24, кв. 385. Вользе ДЗМІТРЫЕВАЙ.**



**Не спатрэбіліся перакладчыкі ў час знаходжання англійскіх школьнікаў і настаўнікаў з горада Апланда ў мінскай сярэдняй школе № 103. З гэтай місіяй паспяхова справіліся дзесяцікласнікі: у школе паглыблена вывучаецца англійская мова. У час знаходжання ў беларускай сталіцы госці з Англіі пазнаёміліся з пастаноўкай навучальнага працэсу, прынялі ўдзел у дыспутах, спартыўных спаборніцтвах, пабывалі ў Хатыні і Вязынцы, у Раўбічах. Высока ацанілі маладыя англічане майстэрства артыстаў беларускага балета і цыркавой трупы.**

**А галоўнае — яны бліжэй даведаліся пра жыццё савецкіх людзей.**

**— Мне падабаецца ў Беларусі. У вас такія добразычлівыя людзі. Я раскажу пра ўсё, што бачыў, сваім блізкім, і маім бацькам абавязкова захочацца прыехаць у Беларусь, — сказаў перад ад'ездам семнаццацігадовы Алард Ван Халм.**

**НА ЗДЫМКУ: хутка знайшлі агульную мову вучні 103-й школы і каледжа з Апланда.**

**Фота А. ТАЛОЧКІ.**

# СОЦИАЛИЗМ И ПЕРЕСТРОЙКА: ВОПРОСЫ ТЕОРИИ

**«Сосредоточить свои усилия на разработке теории» — так определена одна из основных задач партии в Платформе ЦК КПСС к XXVIII съезду. Директор Института марксизма - ленинизма академик Георгий СМИРНОВ в беседах с обозревателем АПН Евгением БЛИНОВЫМ поделился своими соображениями по ряду актуальных теоретических вопросов.**

### БЕСЕДА 1-Я
## СОЦИАЛИЗМ: ИДЕАЛ ИЛИ НАУКА?

**Е. Блинов.** — Мы в СССР много лет были уверены, что строим социализм, руководствуясь научной теорией общественного развития. Проблемы, с которыми столкнулось сегодня наше общество, породили значительное смятение в умах. Если суммировать положение, то можно выделить две основные точки зрения. Одни восприняли наш кризис как крах марксизма - ленинизма и считают, что не надо больше никакой теории. Они говорят: «Давайте жить нормально, как все люди живут». Другие считают, что без теории нельзя, что марксизм-ленинизм в принципе правильная теория, но в ходе ее реализации были допущены отдельные ошибки, которые надо выявить и исправить, и тогда все будет хорошо. Многие обращают внимание на то, что в партийных документах теперь о социализме говорится обычно как об идеале. Так что же социализм: идеал или наука?

**Г. Смирнов.** — И то, и другое. Здесь, собственно говоря, нет противоположности. В том смысле, как мы широко употребляем эти понятия, идеал есть цель нашего движения, а теория — это система идей, представлений, аргументов, направленных на объяснение этого движения. В нашей теории имеется целая система идеалов, т. е. тех целей, к которым мы стремимся. Скажем, всестороннее развитие личности. Еще Маркс определил это как самоцель коммунизма. Или свобода каждого как условие свободного развития всех. Тоже формула идеала, которая широко известна и привлекает людей. Ведь теорию не всякий знает, а идеальные представления служат маяками, к которым стремятся люди. Иногда приходится слышать, что марксизм — это не наука, а вера, вроде как религия. Что может быть основой таких утверждений? Я думаю, то, что определенная часть людей базирует свое отношение к социализму на вере в справедливость его идеалов. Они не изучали теории, не читали «Капитал», «Анти-Дюринг», не знают многих произведений Ленина, однако они читают газеты, слушают лекции и таким образом определяют свое отношение к социалистическим идеям. В отличие от них люди, изучающие теорию социализма, понимают и объективную обусловленность социализма, как продукта творчества людей. Им легче понять, почему и какие бывают противоречия в процессе социалистического движения.

Мне кажется, нет смысла противопоставлять идеал и теорию, хотя не могу не сказать, что Маркс и Энгельс подчеркивали важность истолкования коммунизма как движения общества, чтобы тем самым подчеркнуть его естественный, закономерный характер. Я не думаю, что ныне надо отказаться от теории социализма. Наоборот— надо усилить разработку теории социализма, опираясь на методологию марксизма-ленинизма, учитывая все ценное, что накопила человеческая культура.

**Е. Блинов.** — Сейчас в прессе, даже партийной, нередко встречаешь утверждения, что идейный багаж классиков марксизма - ленинизма рано или поздно должен иссякнуть; на Западе говорят, что он давно уже устарел. У нас часто приходится слышать о необходимости «отбросить догмы». Партия считает, что теорию надо развивать. Но как? Немало людей, которые уверены, что в марксизме никогда не было догм. Есть положения, которые раньше, в конкретной обстановке того времени были истиной, но обстановка изменилась, и просто требуется переосмыслить то или иное положение в новых условиях. То есть речь идет не об «отбрасывании», а о развитии. Какова ваша точка зрения?

**Г. Смирнов.** — Да, есть такая точка зрения, согласно которой если однажды что-то открыто, то это навечно. Но ведь процесс познания противоречив, мышление отражает объект не полностью, в известных пределах. Со временем представления о предмете познания расширяются и прежние представления о нем развиваются либо путем дополнения новых знаний без отбрасывания добытых ранее представлений, либо путем отбрасывания устаревших знаний. В тех же случаях, когда люди принимают то или иное положение за непреложную, непререкаемую истину без доказательства, тогда и образуется догматическое знание. Так что не имеет смысла противопоставлять отбрасывание и развитие познания. Разве у Маркса и Ленина не было таких моментов, когда приобретенные новые познания предполагали отбрасывание старых истин? Ленин, разве он не отбрасывал догмы? Вспомните известное положение Маркса о том, что победа революции произойдет одновременно во всех развитых капиталистических странах. Ленин сделал вывод о возможности в условиях империализма победы социалистической революции в одной стране. Из-за этого возник великий исторический спор между Лениным и лидерами социал-демократии. Каутский, а у нас Плеханов, Мартов были решительно против. Для них Ленин выступил как ревизионист, на самом же деле он отбросил «истину», которая перестала быть таковой и превратилась в догму. Что значит догма? Есть догмы религиозные, есть догмы научные. В религии догмы — всегда непреложная истина. В науке, если истина перестает соответствовать объективной действительности, она превращается в догму. Но эти изменения требуют доказательства. Те, кто не заметил превращения, становятся догматиками.

**Е. Блинов.** — Таким образом, вы считаете, что развитие марксизма идет путем отбрасывания одних, устаревших положений и развития других?

**Г. Смирнов.** — Не только путем отбрасывания и возникновения новых, но и сохранения тех истин, которые не перестают быть истинами. Если мы будем идти только путем отбрасывания, то от теории вскоре ничего не останется. Если же будем бесконечно держаться за все старое и при этом создавать новое, то у нас образуется конфликтная ситуация между новым и устаревшим, что, собственно, у нас сейчас и получилось.

**Е. Блинов.** — Еще один вопрос, который у многих вызывает недоумение. Нас учили рассматривать социализм и коммунизм как необходимые и неизбежные этапы естественного исторического процесса, результат действия его объективных законов. В то же время все годы Советской власти свидетельствуют, что основным инструментом строительства социализма была и остается политика, т. е. субъективный фактор. Более того, ошибки политики никак не дают нам возможности построить социализм. Возникает вопрос: где же объективные законы? Почему они не действуют? Это дает пищу разговорам о том, что марксизм-ленинизм — надуманная, не отвечающая требованиям жизни теория, что именно ее применение завело страну в тупик.

**Г. Смирнов.**—Здесь, на мой взгляд, скорее виноват не марксизм, а его недостаточная разработка и неправильное понимание. Маркс в «Критике Готской программы», если помните, указывает на то, что весь период времени, лежащий между капитализмом и коммунизмом, является периодом революционного превращения первого во второе. А что такое революция? Революция — это такое развитие, когда назревшие потребности рождают новые идеи, идеи овладевают массами, воплощаются в материальные условия, в т. ч. в производственные отношения. Иными словами — это такое время, когда массы поднимаются к историческому творчеству и субъективный фактор действует особенно активно.

Суть дела в том, что объективные законы общественного развития не действуют автоматически, они осуществляются через действие партий, масс и оставляют свободу выборов массам, ведь свобода — это осознанная необходимость. А если необходимость не осознана, истолкована неправильно? Тогда естественны и неизбежны ошибки. Ни одна революция не обходилась без ошибок, но они становятся тем меньше, чем больше люди овладевают законами общественного развития. Наша революция не исключение. Мы явно переоценили свое знание законов общественного развития и за это несем наказание. Конкретный пример — закон стоимости. Мы теоретически признавали, что он должен действовать, а практически не дали ему развернуться. И он наказал нас.

---

***СОТРУДНИЧЕСТВО В КОСМОСЕ***

# БУДЕТ ЛИ У ИСПАНИИ
## НЕБЕСНЫЙ «ПРЕЕМНИК» КОЛУМБА?

В 1992 году человечество будет отмечать 500-летие открытия Америки Христофором Колумбом. Кульминацией торжеств мог бы стать полет первого испанского космонавта. Советский Союз готов предоставить для этого необходимую технику. Идея советско-испанской космической экспедиции уже давно витает в воздухе. Между некоторыми испанскими фирмами и советскими организациями проведены предварительные переговоры, но дело пока не поставлено на практические рельсы.

— Звездный городок, где тренируются космонавты,— говорит заместитель руководителя Центра подготовки А. Леонов,—готов принять представителей Испании. Мы сейчас вступаем в такую фазу, когда международные исследовательские работы на орбитальной станции «Мир» значительно активизируются. На коммерческой основе в 1991—1992 годах будут проведены пилотируемые экспедиции, в которых примут участие представители Австрии, Англии, Японии, Франции, возможно, ФРГ. Я не вижу причин, по которым этот перечень не могла бы дополнить Испания. Экономические, научно-технические, культурные связи между СССР и Испанией успешно развиваются. Космический полет с участием космонавта Испании стал бы не только достойной данью памяти великого первопроходца Христофора Колумба, но и хорошим стимулом для дальнейшего расширения сотрудничества наших стран. У нас, как я уже сказал, плотный график международных полетов, да и времени, учитывая знаменательную дату, остается совсем немного, но, с другой стороны, есть солидный опыт подготовки подобных экспедиций. Словом, если бы с испанской стороны были соответствующие обращения, мы с такой задачей справились бы...

К словам А. Леонова можно добавить, что у Звездного городка действительно наступает «горячий» период, хотя говорить об этом можно лишь относительно. Работы на «Мире» ведутся весьма активно. В конце минувшего года к станции был пристыкован модуль дооснащения— внушительный блок, по габаритам и массе равный самой станции. Теперь в составе орбитального комплекса уже три основных элемента: сама станция «Мир» и два специализированных модуля. Космонавты А. Викторенко и А. Серебров выполнили ряд выходов в открытый космос. Они провели испытание в открытом пространстве «космического велосипеда»—портативной установки для перемещений в открытом космосе, действующего от баллонов со сжатым воздухом. В числе прочих работ экипаж выполнил коммерческий заказ американской фирмы, связанный с изготовлением ряда биологических и фармацевтических препаратов. В апреле Викторенко и Серебров закончили работу на «Мире», их по ходу полета сменил другой экипаж — А. Соловьев и А. Баландин. К орбитальному комплексу был пристыкован еще один блок—технологический модуль...

Что касается международных экспедиций, то подготовка к ним уже идет полным ходом. Отобраны претенденты на полет от Австрии, практически сформирована программа исследований. Экспедицию планируется провести в середине 1991 года. В программу входят технологические, медико-биологические и другие исследования. Подобный же цикл работ предполагают провести и английские специалисты в рамках проекта «Юнона». Отличие его от советско-австрийской программы в том, что коммерческое соглашение было заключено не на межгосударственном уровне, а в порядке частной инициативы. Английские фирмы собрали 16 миллионов фунтов стерлингов—такова стоимость экспедиции—и намерены поднять на борт «Мира» до трехсот килограммов полезного груза: приборов, образцов для исследований. Английские ученые и бизнесмены полагают, что предложенные советской стороной коммерческие условия вполне приемлемы, затраты на полет будут компенсированы как итогами экспериментов, так и теми доходами от рекламной деятельности, которая будет проводиться в процессе подготовки и проведения экспедиции.

Японская радиотелевизионная компания ТБС, заключившая контракт с Главкосмосом СССР и «Лицензинторгом», похоже, постарается компенсировать расходы, связанные с посылкой на борт «Мира» японского журналиста, главным образом за счет рекламной деятельности, хотя и для этой экспедиции планируются оригинальные научные исследования. Кстати, для каждой экспедиции нет какой-то единой «стандартной» цены. Она определяется особенностями контракта, учитывает многие факторы. Полеты английского и японского космонавтов, а может быть, и космонавток запланированы также на 1991 год. Все претенденты, как отмечает А. Леонов, успешно овладевают русским языком. Этот этап уже заканчивается, начинается изучение теоретических дисциплин.

На 1992 год твердо запланирован пока советско-французский полет. Кстати, это будет третья по счету совместная экспедиция. Ведется разработка программы научных исследований, уточняются другие детали. Разумеется, в подготовке полета участвует не только Звездный. Десятки, если не сотни организаций должны подготовить и транспортный корабль, и носитель для него. Соответствующим образом к проведению экспедиции должны быть готовы и многочисленные службы обеспечения полета: космодром, Центр управления полетом, поисково-спасательный комплекс. Словом, каждая экспедиция—это согласованная работа многих и многих организаций. Способны ли они «вписать» в свой и без того плотный график полет испанского космонавта, если на этот счет будут достигнуты соответствующие договоренности? Главкосмос СССР утверждает, что такая возможность пока есть.

**Михаил ЧЕРНЫШОВ.**
(АПН).

*СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ*

# СЛАВЯНЕ НАД АДРЫЯТЫКАЙ

(Працяг. Пачатак у № 20).

У канцы лістапада 1646 года Ю. Крыжаніч прыехаў у Варшаву, каб адсюль 11 снежня са сваім слугою ў свіце смаленскага уніяцкага епіскапа Пятра Парчэўскага адправіцца ў пагранічны горад над Дняпром. Падарожжа па беларускіх землях у зімовую пару, калі свавольнічалі мяцеліцы, замяталіся дарогі, цягнулася марудна, доўга—цэлыя два месяцы. У Смаленск прыехаў 18 лютага 1647 года. Па дарозе часта прыходзілася спыняцца на пастоі ў вёсках і мястэчках. Але для Крыжаніча, чалавека з лінгвістычнымі схільнасцямі, такія акалічнасці мелі і свой станоўчы бок, бо давалі магчымасць бліжэй пазнаёміцца з народнай гутаркай беларусаў, яе характэрнымі асаблівасцямі словаўжывання, формамі звароту. Знаёмства з пісьмовымі скарбамі тутэйшага люду паслужылі яму глебай для таго, каб у лінгвістычнай працы пад назвай «Тлумачэнне выводна пра пісьмо славенскае» зазначыць, што «беларусы пры выданні Бібліі, лексікона, граматыкі і іншых кніг шмат змяненняў зрабілі...» Адначасова, звяртаючыся да чытача, ён запэўніваў: «З маёй працы можна даведацца, што ўнеслі ў славянскую мову беларусы...» Гэтыя думкі, зразумела, фрагментарныя, бо не атрымалі паслядоўнага развіцця. І ўсё ж яны пераконваюць у тым, што паўднёваславянскі асветнік імкнуўся мець больш поўнае ўяўленне аб беларусах, іх укладзе ў агульнаславянскую і агульначалавечую скарбніцу культуры.

У Смаленску Ю. Крыжаніч зблізіўся з такімі ўплывовымі беларускімі уніятамі, як епіскап Андрэй Залаты і архідыякан Фёдар Скульміновіч. Асабліва ён пасябраваў са Сцяпанам Галынскім, у якога кватараваўся і жыў на поўным утрыманні. У гэтага заможнага пана, адзначаў ён пазней, была багатая бібліятэка. У ёй Ю. Крыжаніч працягваў вывучаць матэрыялы па кірыліцы і глаголіцы, жыццё Канстанціна—Кірылы Філосафа, працаваў над харвацкай і царкоўнаславянскай граматыкамі.

У канцы верасня 1647 года ў складзе пасольства Рэчы Паспалітай на чале з кіеўскім ваяводам Адамам Кісялём Ю. Крыжаніч у якасці перакладчыка рускай мовы пакінуў пагранічны Смаленск і выехаў у Маскву.

У Маскве апрача службовых спраў Ю. Крыжаніч шмат увагі ўдзяляў азнаямленню з праваслаўнымі святынямі, шукаў палемічных прац, накіраваных супраць іншых цячэнняў хрысціянскай рэлігіі. У снежні члены пасольства Рэчы Паспалітай, у складзе якога былі таксама смаленскі архіепіскап Аляксандр Катовіч, паслы Казімір Пац і Геранім Ціхановіч, вярнуліся ў Смаленск. Тут Ю. Крыжаніч адразу ж склаў справаздачу для Кангрэгацыі прапаганды веры аб сваім падарожжы ў Маскву, у якой адзначаў, што маскоўскі патрыярх Іосіф клапоціцца пра выпуск друкаваных кніжак, накіраваных у абарону праваслаўя ад уплыву каталіцтва, лютэранства і кальвінізму. Ён падрабязна расказаў пра «Кірылаву кнігу», якую набыў у Маскве. Ю. Крыжаніч пісаў, што гэтая кніга складаецца з трактатаў грэчаскіх прапаведнікаў, напоўненых амаральнымі байкамі і лжывымі выдумкамі аб рымскім касцёле «такімі паскуднымі словамі», што яны не могуць спадабацца ніводнаму прыстойнаму чалавеку. Таму Крыжаніч лічыць, што надышла пара раструмачыць маскоўскім і грэчаскім прапаведнікам іх памылкі і такім чынам заахвоціць да уніі з каталіцкім касцёлам.

Улетку 1648 года Ю. Крыжаніч пабываў у Гродне, дзе быў госцем мясцовых духоўных улад. Адсюль ён накіраваўся ў Вену, дзе знаходзіўся пад апекай Харвацкай калегіі. У 1651 годзе яму ўдалося ў складзе аўстрыйскага пасольства пабываць у Канстанцінопалі, сталіцы Асманскай імперыі. З цягам часу Крыжаніч дабіваецца паўторнага падарожжа ў Маскву, якое ажыццявіў у верасні 1659 года.

У Маскве харвацкі асветнік адразу ж узяўся за працу над складаннем граматыкі па рускай мове. Неўзабаве, 19 студзеня 1660 года, пасля заканчэння прыёму ў крамлёўскім палацы, які быў наладжаны царом Аляксеем Міхайлавічам з нагоды склікання сабора рускай праваслаўнай царквы, у Крыжаніча адбылася сустрэча з вядомым беларускім грамадска-палітычным і культурным дзеячам Сімяонам Полацкім (сапраўднае імя Самуіл Пятроўскі-Сітняновіч, 1629—1680). Ён, як і архімандрыт полацкага Барысаглебскага манастыра Ігнацій Іеўлевіч, быў запрошаны прыняць удзел у праваслаўным царкоўным саборы. Сюды яны прыехалі са шматлікімі світамі на дзевяці падводах. Сімяон Полацкі прыбыў у Маскву з дванаццаццю вучнямі, якія на ўрачыстай частцы сабора дэкламавалі вершы свайго настаўніка, прысвечаныя рускаму цару і ягонай сям'і.



Сустрэчы і гутаркі з Сімяонам Полацкім у Маскве зрабілі на Крыжаніча незабыўнае ўражанне. Ён станоўча ацаніў веданне беларускім духоўным дзеячам лацінскай і нямецкай моў, «ягоную начытанасць у царкоўнай літаратуры», імкненне да культурнага збліжэння з народамі Заходняй Еўропы.

Аднак становішча ў Маскоўскай дзяржаве ў той час было даволі складанае і супярэчлівае. Тыповай рысай грамадскага жыцця стала падазронасць. Такія абставіны крута змянілі жыццёвы лёс і Ю. Крыжаніча. 8 студзеня 1661 года яму аб'явілі царскі ўказ аб высылцы ў Сібір. 20 студзеня разам з іншымі духоўнымі асобамі, таксама ссыльнымі, Крыжаніч выехаў з Масквы ў Табольск.

Сібірскае выгнанне Ю. Крыжаніча цягнулася даволі доўга—цэлых пятнаццаць гадоў. З Табольска ён вярнуўся ў Маскву толькі ў маі 1676 года, прытым цяжка хворы, згодна з указнымі граматамі і міласцямі новага рускага цара Фёдара Міхайлавіча, былога вучня Сімяона Полацкага.

У лютым наступнага года Ю. Крыжанічу ўдалося атрымаць царскі дазвол на тое, каб выехаць «за рубеж літоўскі». Тым часам надзвычайны дацкі пасланнік Фрыдрых фон Габель узяў яго на службу. Ю. Крыжаніч толькі ў кастрычніку 1677 года выехаў з Масквы. Прыехаўшы за літоўскі рубеж у горад Друю, ён вельмі занямог. Ім заапекаваўся ордэн дамініканцаў, які тут меў свой шпіталь. Урач неўзабаве параіў Крыжанічу ехаць у Вільню, дзе знаходзіцца кіраўніцтва ордэна і вялікі дамініканскі кляштар з багатаю бібліятэкай.

Ю. Крыжанічу даўно хацелася пабываць у Вільні, гэтым старадаўнім горадзе — цэнтры ўсходнеславянскага кнігадрукавання, дзе працаваў раней вялікі асветнік-гуманіст Францішак Скарына, пабачыла свет шмат цікавых кніжак. Вільня захапіла Ю. Крыжаніча сваёй готыкай і рэнесансам. Ён любаваўся дзівоснай рытмікай ліній фасада касцёла святой Ганны. Неадночы харвацкі госць падыходзіў да Вострай Брамы, імкнучыся зразумець яе адметную сімволіку, захоплены абразом Маці Боскай — мастацтвам, народжаным ідэямі гуманізму і рэфармацыі. Яго зачароўваў таксама будынак пад назвай Олюмнатум з аркадамі, якія ажыўлялі абрысы архітэктуры антычнай эпохі. У касцёле св. Міхала ён падоўгу стаяў ля надмагільнай пліты над астанкамі Льва Сапегі — канцлера і гетмана Вялікага княства Літоўскага. Цікавасць да асобы гэтага палітыка і дыпламата ў Крыжаніча была невыпадковай. З імем Льва Сапегі (1557—1633) звязана падрыхтоўка і выданне Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 года, у якім знайшлі адлюстраванне яго філасофска-прававыя погляды. Пытанні кіравання дзяржавай, правы і абавязкі правіцеля перад народам глыбока хвалявалі і Ю. Крыжаніча. У сваім навуковым трактаце «Палітыка» ён удзяліў ім шмат увагі.

У Вільні харвацкі асветнік спаткаў даўняга знаёмага, былога смаленскага епіскапа Аляксандра Катовіча, які раней быў з ім у час першай вандроўкі ў Маскву, а цяпер з'яўляўся настаяцелем Віленскага сабора. Шмат у чым ён дапамагаў Ю. Крыжанічу, асабліва ў атрыманні патрэбных дакументаў, якія засведчылі б, што харвацкі асветнік мае адпаведную адукацыю і выконвае ролю апостальскага місіянера. У знак удзячнасці за прыязныя адносіны Ю. Крыжаніч падараваў яму для яго брата Яўстафія Катовіча, які быў у гэты час смаленскім епіскапам, адзін экземпляр сваёй працы «Гісторыя Сібіры».

У пачатку жніўня 1681 года Ю. Крыжаніч атрымаў ліст з Варшавы ад папскага нунцыя, які паведамляў, што яго кнігі перададзены на прагляд. У сувязі з гэтым, паведамляў нунцый, ён рыхтуе спецыяльны ліст на імя кіраўніка ордэна дамініканцаў, каб Ю. Крыжаніча адпусцілі ў Рым.

Ю. Крыжаніч быў акрылёны такой весткай і імкнуўся хутчэй адправіцца ў Рым. Аднак абставіны склаліся інакш. Па нейкіх прычынах ён не змог своечасова ажыццявіць намер, а гэта прывяло да паваротнай жыццёвай калізіі. У сакавіку 1683 года пачаліся ваенныя дзеянні Асманскай імперыі супраць Аўстрыі. Агромністая, больш чым двухсоттысячная армія, якую ўзначальваў вялікі візір Кара Мустафа, уварвалася на венгерскія прасторы, разбіла аўстрыйскае войска і рухалася да сталіцы Вены. 14 ліпеня турэцкая армія пры падтрымцы татарскай конніцы пачала асаду горада. У такой складанай сітуацыі Аўстрыя згодна з саюзнымі ўмовамі звярнулася за дапамогай да польскага караля Яна Сабескага і нямецкіх князёў. Саюзныя войскі даручана было ўзначаліць польскаму каралю.

У Каралеўстве Польскім і Вялікім княстве Літоўскім —складаемых частках Рэчы Паспалітай — была аб'яўлена мабілізацыя рэзервістаў*. Ю. Крыжанічу таксама наканавана было стаць у шэрагі польска-літоўскага войска пад камандаваннем караля Яна Сабескага. Паколькі ў войску не хапала святар... яму прапанавалі далучы... да армейскіх падраздзяленняў, якія накіроўваліся пад Тульнаў на Дунаі. Тут праводзілася перагрупоўка саюзных войск да ваенных дзеянняў.

...расня 1683 года на ўзы...шах вакол аўстрыйскай сталіцы саюзныя войскі занялі зыходныя пазіцыі, а праз ноч на світанні пачалася крывавая бітва. «Кара Мустафа галоўны свой удар нанёс па левым фланзе, абрушыў на аўстрыйцаў агонь сваёй артылерыі. Завязаўся рукапашны бой, аўстрыйцы пачалі паступова адыходзіць. Але ў гэты час польскі кароль з правага фланга кінуў у бой буйныя сілы польскай кавалерыі. Яна разбурыла баявыя парадкі праціўніка, выклікала паніку і практычна вырашыла зыход бітвы. Варожыя войскі не вытрымалі націску польскай конніцы і кінуліся наўцёкі, на полі бітвы засталося да 20 000 забітых і параненых. Пераможцам дасталіся багатыя трафеі —амаль уся артылерыя і ўвесь абоз з нарабаваным дабром, у тым ліку і баявы сцяг візіра. Вызваленая ад асады Вена радасна сустракала пераможцаў. Але не было сярод іх чалавека, які ўсё жыццё аддаў барацьбе за адзінства і свабоду славянскіх народаў». Гэтыя сціслыя і яркія радкі пра венскую кампанію 1683 года і апошнія дні Ю. Крыжаніча ўзяты з кнігі Л. Пушкарова «Юрый Крыжаніч. Нарыс жыцця і творчасці».

Сувязі Ю. Крыжаніча з духоўнымі асобамі і іншымі прадстаўнікамі грамадскасці беларуска-літоўскіх зямель былі працяглымі і даволі плённымі, бо спрыялі ажыццяўленню ягоных планаў — падрыхтоўцы важных навуковых прац. Не ўсе погляды і ідэі Ю. Крыжаніча тут падзялялі. Думаецца, яны не змаглі зрабіць значнага ўплыву на духоўнае жыццё гэтага краю, паколькі не мелі шырокага распаўсюджвання. Аднак варта адзначыць, што харвацкі асветнік тут не адчуваў сябе ізаляваным. У Вільні — галоўным цэнтры культурнага жыцця беларуска-літоўскага краю — ён пражыў чатыры гады і шмат змог ажыццявіць з задуманага. Умовы для навуковай працы, як сам неадночы адзначаў, былі вельмі спрыяльныя. Ю. Крыжаніч сустракаўся і быў у добрых адносінах з многімі ўплывовымі духоўнымі асобамі не толькі Вільні, але і Гродна, Полацка, Смаленска, Мінска, Навагародка, Друі і іншых гарадоў.

У гэты перыяд на беларуска-літоўскіх землях працягвалася даўняя традыцыя падарожжаў па іншых краінах, у тым ліку і паўднёваславянскіх, якая ў старадаўняй літаратуры атрымала назву «хаджэння». Наведанне выхадцамі з Беларусі зямель паўднёвых славян мела тады асаблівае значэнне, паколькі давала магчымасць сабраць патрэбныя звесткі пра здзекі турэцкіх заваёўнікаў з брацкіх народаў. Некаторыя з вандроўнікаў гэта добра ўсведамлялі, а таму імкнуліся весці дзённікі або проста занатоўвалі асобныя факты, каб затым падрыхтаваць аб сваіх падарожжах успаміны і назат цэлыя трактаты, якія з цягам часу набывалі вартасць гістарычных дакументаў.

У такім плане пэўную цікавасць уяўляе дзённік Саламеі-Рэгіны Русецкай пад назвай «Рэха, паданае свету, або Прыгоды з майго падарожжа...», які быў ёю напісаны ў сярэдзіне XVIII стагоддзя. У ім аўтарка шмат увагі ўдзяляла гісторыі паўстання сербскага і балгарскага насельніцтва ваколіц Піроты, Беркавіц, Брэзніка, Радоміра і іншых месцаў.

Значную цікавасць выклікаюць дзённікавыя запісы Аляксандра Сапегі ў выглядзе пісем да вядомага вучонага, заснавальніка першай у Беларусі медыцынскай акадэміі ў Гродне (1776—1781) Жана Эмануэля Жылібера, якія адносяцца да пачатку XIX стагоддзя.

Аляксандр Сапега (1773—1812) — славуты альпініст і падарожнік, этнограф і фалькларыст — паходзіў з Брэстчыны, са старадаўняга беларускага княжацкага роду. Як натураліст і хімік, ён прымаў актыўны ўдзел у рабоце Варшаўскага таварыства сяброў навукі. А. Сапега з вялікай сімпатыяй ставіўся да барацьбы паўднёвых славян за сваю свабоду і незалежнасць, імкнуўся бліжэй пазнаць іх уклад жыцця, звычаі. З гэтай мэтай у 1797 годзе ён адправіўся ў вандроўку ўздоўж усходняга ўзбярэжжа Адрыятычнага мора — па Істрыі, Далмацыі, Босніі і Герцагавіне, якія тады знаходзіліся пад аўстрыйскім і турэцкім прыгнётам. У часе падарожжа наш суайчыннік звяртаў увагу на ўсе бакі жыцця працоўнага люду. Незабыўнае ўражанне зрабілі на яго сустрэчы з далмацкімі гайдукамі — храбрымі славянскімі воінамі, якія ў сваіх сёлах не давалі спакою турэцкім янычарам, помсцячы за іх здзекі з сялян. Ён захапляўся іх бескарыслівасцю і адвагай. З глыбокай пашанай наш зямляк расказвае пра далмацкіх асветнікаў, якія дбайна захоўвалі старадаўнія рукапісы, унікальныя зборы гербаў славянскіх шляхецкіх родаў, калекцыі бюстаў і статуй. Мову народа ён лічыў найбагацейшым духоўным скарбам, таму раіў руплівa яе берагчы. На яго думку, мову можна выкарыстоўваць для вывучэння гісторыі кожнага народа, і сам гэта даводзіў на канкрэтных прыкладах з паўднёваславянскай тапанімікі.

**Леў МІРАЧЫЦКІ.**
**(Заканчэнне будзе).**

* У Рэчы Паспалітай у той час існавалі дзве арміі — каронная (польская) і літоўская.

**НА ЗДЫМКУ: З. КАСПШАК. «Паядынак славяніна з янычарам».**

**ЧАЙКОЎСКІ — ГЭТА ШЛЯХ У МУЗЫЦЫ АД НАЦЫЯНАЛЬНАГА ДА ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНАГА**

# ГЕНІЙ ЗАЎСЁДЫ ЗАГАДКАВЫ

1990 год аб'яўлены ЮНЕСКА годам Чайкоўскага. 7 мая споўнілася 150 гадоў з дня нараджэння вялікага рускага кампазітара. Музычная грамадскасць усяго свету шырока адзначыла гэтую дату. У нашай краіне намечана вялікая праграма святкавання юбілею. У Маскве прайшлі канцэрты лаўрэатаў Міжнароднага конкурсу імя Чайкоўскага, якія сталі дабрачыннай акцыяй многіх музыкантаў свету. Оперныя тэатры, сімфанічныя і камерныя аркестры, салісты-інструменталісты і вакалісты прапанавалі да гэтай даты свае праграмы.

Сярод іх і праслаўлены дырыжор, мастацкі кіраўнік Вялікага сімфанічнага аркестра Дзяржтэлерадыё СССР Уладзімір Федасееў, вядомы сваёй прыхільнасцю да рускай класічнай музыкі, у прыватнасці, Чайкоўскага. Так, у выкананні Федасеева і яго аркестра ўпершыню ў гэтым годзе на радзіме кампазітара былі выкананы ў аўтарскай рэдакцыі, без купюр кантата «Масква» і ўверцюра «1812 год».

**— Мы многа гаворым пра Чайкоўскага, які нездарма лічыцца гонарам рускай культуры. Газеты і часопісы напоўнены артыкуламі пра яго. А ці добра вядома сённяшняму слухачу яго творчая спадчына!**

— Думаю, што не так добра, як гэта ўяўляецца. У оперным тэатры, як правіла, ідуць толькі «Яўгеній Анегін» і «Пікавая дама» (балетам пашанцавала больш). Не ставяцца такія оперы, як «Чаравічкі», «Апрычнік», «Чарадзейка», «Арлеанская дзева». З майго пункту гледжання, Вялікі тэатр СССР абавязаны мець у рэпертуары ўсе оперныя творы Чайкоўскага. У нашых сімфанічных праграмах у асноўным Чацвёртая, Пятая і Шостая сімфоніі. Першую, Другую і Трэцюю практычна на афішах не сустрэнеш. Ці ўзяць фартэпіянную музыку. Хто з піяністаў пасля мінулага чарговага конкурсу Чайкоўскага звярнуўся, скажам, да цыкла «Поры года» і сыграў яго? Ніхто. А гэта ж такая класіка, якая патрэбна ўсім: і тым, хто толькі пачынае спасцігаць музыку, і тым, хто ведае яе выдатна. Рэдка гучаць і уверцюры Чайкоўскага. Прыклады можна прыводзіць і прыводзіць...

**— Што для вас асабіста азначае музыка Чайкоўскага!**

— Маё станаўленне як сімфанічнага дырыжора было звязана менавіта з Чайкоўскім. Першая сімфанічная праграма — не на радыё, а ў канцэртнай зале—была складзена з твораў вялікага кампазітара. У той час я яшчэ ўзначальваў аркестр рускіх народных інструментаў, а не Вялікі сімфанічны. Яўгеній Мравінскі, выдатны дырыжор, прапанаваў мне выступіць з яго аркестрам у зале Ленінградскай філармоніі і выканаць Чайкоўскага. У 1972 годзе я ўпершыню стаў за оперны пульт, прадырыжыраваў «Яўгеніем Анегіным» у Вялікім тэатры. Я не помню ніводнага года, калі б не звяртаўся да музыкі Чайкоўскага — опернай ці сімфанічнай. І яшчэ хацелася б адзначыць, што Чайкоўскі быў для мяне школай эмацыянальнага чытання музыкі, школай пачуцця.

Што асабліва важна, Чайкоўскі—гэта шлях у музыцы ад нацыянальнага да інтэрнацыянальнага. Застаючыся глыбока рускім кампазітарам, ён у той жа час належыць агульнасусветнай культуры. І мне заўсёды было цікава назіраць, як наш Чайкоўскі ўспрымаецца за мяжой. У Японіі, напрыклад, яго любяць так, што аркестры з Савецкага Саюза не могуць нават уявіць сабе, як гэта прывезці туды праграму без твораў кампазітара. Да музыкі рускага класіка XIX стагоддзя праяўляюць вялікую цікавасць і многія замежныя музыканты, у прыватнасці вялікія дырыжоры. Караян, напрыклад, звяртаўся да творчасці кампазітара пастаянна, на ўсім працягу сваёй творчай дзейнасці. Часта іграе Чайкоўскага Лорын Маазель, нядаўна мы змаглі пачуць Пятую сімфонію ў інтэрпрэтацыі Дж. Шолці.

**— Што вы прапануеце ў сваіх праграмах да 150-годдзя з дня нараджэння Чайкоўскага!**

— Калі гаварыць пра музыку Чайкоўскага, то, паўтару, яна заўсёды з намі незалежна ад юбілеяў. На працягу паўтара гадоў мы вядзём цыкл канцэртных праграм «З твораў Чайкоўскага і яго дырыжорскага рэпертуару», які задуманы намі і ажыццяўляецца з дапамогай Музея П. І. Чайкоўскага ў Кліне і Усесаюзнага музычнага таварыства. У ім прадстаўлена не толькі творчасць самога кампазітара, але і тое, што яму было дарагім у іншых, што ён цаніў, да хацеў дакрануцца як выка ца. Канцэрты гэтага цыкла вельмі цёпла сустрэты слухачамі; мы плануем паўтарэнне асобных яго праграм у тых гарадах, дзе дырыжыраваў кампазітар—Тбілісі, Адэсе, ве. Далей—мы прымем удзел у фестывалі, прысвечаным творчасці Чайкоўскага, у ФРГ. Мы будзем іграць у двух гарадах—Мюнхене і Франкфурце—шэсць розных праграм кампазітара, у іх увайшлі ўсе сімфоніі Чайкоўскага, канцэрты, фрагменты з балетаў і опер. Ідэя гэтага фестывалю належыць нямецкаму боку.

**— Нядаўна ў Маскве ў канцэртным выкананні прагучала «Пікавая дама». Дзе яна прагучыць яшчэ, хто выканаўцы!**

— Прэм'ера «Пікавай дамы» прайшла ў цыкле, аб якім я гаварыў. Усёй операй сам Чайкоўскі не дырыжыраваў, тлумачыў гэта тым, што яго захлістваюць эмоцыі, што ён пачынае плакаць. Але ў канцэртах фрагменты оперы выконваў. Для мяне, вядома, было вялікім шчасцем дакрануцца да гэтай оперы. Прэм'ера адбылася ў снежні ў рамках фестывалю «Руская зіма». Мы паўторым спектакль у Мілане і ў Парыжы з тым жа складам выканаўцаў. Гэта Ірына Архіпава, Мікалай Дацко, Дзмітрый Хварастоўскі, Л. Чарных. У Парыжы мы выступім у зале Плеель у цыкле «Прэстыжных канцэртаў», што выклікаюць заўсёды асобую ўвагу публікі.

**— Скажыце, цікавасць да Чайкоўскага стабільная ці, можа быць, павышаная ўвага выклікана юбілейным годам!**

— Чайкоўскі—заўсёды Чайкоўскі. І музыка яго заўсёды гучала. Мы заўсёды беражліва ставіліся да яго творчасці, імкнуліся яго разгадаць. Геній заўсёды загадкавы. Для мяне ў Чайкоўскім самая вялікая загадка—яго музыка. Загадкавы і чароўны яго меладычны дар. А цяжкі ён увесь, уся яго творчасць, таму што Чайкоўскі — адзін з найбольш страсных рускіх кампазітараў.

Гутарку вёў
**Уладзімір КОТЫХАЎ.**



**Дзеці энергетыкаў Белаазёрска з захапленнем займаюцца ў танцавальным ансамблі «Журавінка» Палаца культуры Бярозаўскай ДРЭС. Пад кіраўніцтвам вопытнага педагога і энтузіяста Алены БЫКОВІЧ яны спасцігаюць азы танцавальнага майстэрства, шліфуюць тэхніку і з часам пераходзяць у асноўны склад ансамбля. Выступленні «Журавінкі» заўсёды цёпла прымаюцца гледачамі. НА ЗДЫМКУ: на сцэне—«Журавінка».**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

## «НАША СЛОВА»

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны пачало выдаваць свой бюлетэнь — «Наша слова». У звароце да чытача, якім адкрываецца першы нумар, задавальненне, хай нягучнымі, але ўпэўненымі крокамі на шляху вяртання законных правоў роднай мове на Беларусі. Прыняты Закон, якім беларускай мове нададзены статус дзяржаўнай, — гэта толькі першы крок. А ці стане яна сапраўднай гаспадыняй на ўласнай зямлі?

Каб аднавілася і загучала мова на поўную моц, клапаціцца павінен кожны беларус. А для гэтага ж менавіта кожны беларус мусіць усвядоміць, што, калі ў народа няма сваёй мовы, уласнай мастацкай культуры, гістарычнай памяці, адметнага духоўнага аблічча, ён не зможа называцца народам.

Ужо з першага нумара відаць, што бюлетэнь сваімі публікацыямі будзе імкнуцца ўзнімаць аўтарытэт і прэстыж беларускай мовы, паказваць яе прыгажосць і багацце, расказваць аб выдатных прадстаўніках беларускай інтэлігенцыі, якія і ў самыя неспрыяльныя для народа моманты былі абаронцамі і прапагандыстамі роднага слова.

Пісьменнік Анатоль Клышка ў рубрыцы «Культура мовы» перасцерагае ад захаплення калькамі з рускай, тлумачыць і вучыць на шматлікіх прыкладах, паказвае адметнасць і своеасаблівасць нашай мовы.

Друкуюцца пісьмы, у якіх заклапочанасць становішчам мовы ў рэспубліцы, адносінамі да яе з боку ўлад, незадаволенасць невялікай колькасцю беларускамоўных школ. Мовазнаўца Г. Цыхун у артыкуле «Моўная экалогія ў свеце» папярэджвае, што двухмоўе не вядзе да гарманізацыі моўных адносін, больш таго, рана ці позна яно вядзе да паглынання адной мовы другой.

Спонсарам ТБМ з'яўляецца Дзяржаўны камітэт БССР па друку, які ўзяў на сябе асноўныя матэрыяльныя выдаткі па выданню бюлетэня «Наша слова».

## З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ

**За апошнія некалькі гадоў мінчане прывыклі да незвычайных мастацкіх выстаў. Таму яшчэ нядаўна немагчымая ў Палацы мастацтва экспазіцыя пад назвай «Хрысціянскае мастацтва. Сучаснасць і традыцыі» — творы з калекцыі Маскоўскай патрыярхіі і Патрыярха Маскоўскага і Усея Русі Пімена, успрымаецца спакойна. То і добра. Было б горш, каб на творы духоўнага зместу глядзелі як на экзотыку.**

**Між тым, гэтая выстаўка — адкрыццё цэлага пласта айчыннай культуры, аб існаванні якога многія даведаліся толькі зараз. Лічылася, што хрысціянскае мастацтва скончылася з наступленнем «эры атэізму». На мастакоў, якія звязвалі свой лёс і творчасць з царквою, глядзелі, у лепшым выпадку, як на дзівакоў, але часта і як на «дысідэнтаў», на ўнутраных эмігрантаў. Сёння ж мы маем магчымасць на ўласныя вочы пабачыць плён хрысціянскай ідэі ў мастацтве. На выстаўцы глядач сустрэне сучасны іканапіс, жывапіс у традыцыйна-рэалістычнай манеры «перасоўнікаў», творы нібыта з выставы сучаснага авангарда...**

**Новы час — новыя мастацкія формы. І адначасова павага да гістарычнай традыцыі.**

**П. БОГУШ.**

**НА ЗДЫМКАХ: работы з выстаўкі.**





## З БЕЛАРУСКІХ ВЫДАВЕЦТВАЎ




Сціплая шэрая вокладка гэтай кнігі, можа, і не прыцягнула б да сябе асаблівай увагі, калі б не фотаздымак, змешчаны на ёй. Кавалак гліннага вырабу, на якім праглядаецца дзіўнаватая постаць жанчыны ў старадаўнім убранні, дыхае суровай прыгажосцю мінулых вякоў.

Назва кнігі, што выйшла ў 1989 годзе ў выдавецтве «Беларусь» — «Беларуская кафля». Перад ілюстрацыямі, як заўсёды, робіцца невялікі экскурс у мінулае, у якім аўтары выдання (В. Собаль, М. Ткачоў, А. Трусаў і У. Угрыновіч) паслядоўна разглядаюць гісторыю беларускага кафлярства ад самых вытокаў да XX стагоддзя.

Гэтае сціслае і змястоўнае апавяданне павінна зацікавіць тых, хто захапляецца вытокамі мастацтва і культуры Беларусі. З яго можна даведацца, дзе і як пачала выраблядца першая кафля, як яна выглядала, як выкарыстоўвалася. Сапраўдная эвалюцыя кафлярства: прымітыўныя формы і малюнкі на працягу стагоддзяў змяняюцца ўсё больш і больш складанымі і дасканалымі. Адыходзяць у мінулае старыя метады вытворчасці, з'яўляюцца новыя: на змену рукам прыходзіць ганчарны круг, ганчарнаму кругу — фармаванне, а потым штампы і прэс...

І ўсё ж галоўнае месца ў кнізе займаюць ілюстрацыі. Яны сапраўды яскрава адлюстроўваюць майстэрства і фантазію беларускіх кафляроў, няхай то будуць непасрэдныя архаічныя сюжэты ці ззяючыя дасканаласцю форм і колераў класічныя вырабы.

Кафля выдатна расказвае пра сябе сама, заўсёды захоўвае выразнасць і маляўнічасць. Але без дапамогі прафесійнага гіда зусім не проста разабрацца ў складаных узаемаадносінах розных эпох і стыляў, адрозніць рэнесанс ад барока ці манарызм ад «дывановых» сюжэтаў. Дзеля гэтага ілюстрацыі падзелены на асобныя раздзелы: «Станаўленне беларускага кафлярства», «Павевы рэнесанса», «Здабыткі манарызму», «На хвалі барока», «Росквіт дывановага стылю», «Пад знакам ракайль і картуша» і, нарэшце, «Ад класіцызму да мадэрна».

Напрыклад, у раздзеле «Станаўленне беларускага кафлярства» прыцягвае ўвагу невялікі кавалак кафлі. На ім — звычайны азёрны рак, вельмі па-мастацку і натуральна выкананы нейкім вясёлым майстрам.

У «Здабытках манарызму» ўжо зусім іншыя сюжэты. Вось перад вачамі невялікая ілюстрацыя з «анімалістычнай выявай»: фантастычны, трохі смешны звер. Але калі прыгледзецца да яго, то можна заўважыць хоць і дзіўную, але ўсё ж грыву, кіпцюры, доўгі хвост з пэндзлікам... Напэўна, менавіта так [illegible]ляў сабе сярэдневяковы [illegible]эр «грознага» льва, пра [illegible] можа шмат чуў з легенд, але ніколі не бачыў на самай справе...

Гэтая кафля дэманструе, якой вышыні дасягнула беларускае кафлярства [illegible]інулым. І таму не здзіўляе [illegible]й факт, што ў другой палов[illegible] XVII стагоддзя кафляры з Магілёва, Шклова, Мсціслава і іншых гарадоў дапамагалі будаваць і ўпрыгожваць многія выдатныя помнікі рускага дойлідства і ўнеслі новы струмень у дэкарыраванне архітэктуры...

Не хочацца верыць, што гэтае выдатнае мастацтва амаль сышло на нішто ў Беларусі.

Сучасная кафля, якую разпораз можна сустрэць у магазіне будматэрыялаў, — толькі бляклыя ўспаміны пра мінулае. Напэўна, сапраўды адбілася «замена ручной натхнёнай працы бяздушнай таннай машыннай прадукцыяй», якая адбылася ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзяў. Як адзначаюць аўтары кнігі, з яе і пачаўся «паступовы заняпад вытворчасці». Магчыма, гэтая кніга дапаможа хаця б нагадаць людзям пра высокае мастацтва продкаў...

«Беларуская кафля» выдадзена на шасці мовах: беларускай, рускай, англійскай, французскай, нямецкай і іспанскай. Напэўна, для знаўца народнай культуры і мастацтва яна можа стаць прыемным падарункам.

**Вольга БАБАК.**

## У ВАШУ КАЛЕКЦЫЮ

# ВЯЛІКАМУ КАМПАЗІТАРУ

Скарбніца савецкай філатэліі беражліва захоўвае памяць аб многіх выдатных дзеячах айчыннай і замежнай культуры і мастацтва.

Больш за 50 філатэлістычных выпускаў — маркі, канверты, спецыяльныя штэмпелі — прысвечана геніяльнаму рускаму кампазітару П. Чайкоўскаму. Яго творчасць атрымала самае шырокае прызнанне ва ўсіх краінах свету.




Першыя пяць марак былі створаны ў 1940-м да 100-годдзя з дня нараджэння кампазітара. На іх паказаны Дом-музей П. Чайкоўскага ў Кліне, дзе кампазітар жыў з 1892 года, партрэт Чайкоўскага па афорту В. Матэ і першыя такты Чацвёртай сімфоніі, адлюстраванне скрыпкі і кларнета. На адной з мініяцюр гэтай серыі мастак С. Палянскі выкарыстаў ноты пачатку уверцюры да оперы «Яўгеній Анегін».

Пачынаючы з 1958 года ў Маскве раз у чатыры гады праводзіцца традыцыйны міжнародны конкурс музыкантаў — піяністаў, скрыпачоў і віяланчэлістаў імя П. Чайкоўскага. Конкурсы адзначаюцца выпускам марак, канвертаў, спецыяльных штэмпеляў. Першы конкурс 1958 года азнаменаваўся выпускам трох марак.

У дні другога конкурсу імя Чайкоўскага ў 1962 годзе была таксама выдадзена марка з адлюстраваннем скульптурнага партрэта кампазітара работы Э. Віленскага. Быў выпушчаны канверт з партрэтам кампазітара.

Да трэцяга музычнага конкурсу ў 1966 годзе ў паштовае абарачэнне паступілі тры маркі-гравюры на дрэве вядомага графіка А. Калашнікава. На іх паказаны Маскоўская кансерваторыя імя П. І. Чайкоўскага, партрэт кампазітара на фоне нотнага ліста і Дом-музей у Кліне. Адначасова з выхадам марак выпушчаны канверт і спецыяльны штэмпель з тэкстам «III Міжнародны конкурс імя П. І. Чайкоўскага» на фоне нотных радкоў, скрыпічнага ключа і зямнога шара.

Яшчэ напомнім аб паштовых сувенірах пятага конкурсу музыкантаў. Да яго зноў была выдадзена марка з партрэтам П. Чайкоўскага. Эмблема конкурсу — лічба, упісаная ў стылізаванае адлюстраванне ліры на фоне нотнага запісу баркаролы «Чэрвень» з цыкла «Поры года». Такая ж стылізаваная эмблема і ў малюнку спецыяльнага штэмпеля.

Шырока ў нашай краіне адзначалася 125-годдзе з дня нараджэння кампазітара. Да гэтай даты былі выпушчаны два паштовыя канверты, і ў шасці гарадах нашай краіны юбілей адзначаўся спецыяльным гашэннем карэспандэнцыі юбілейным штэмпелем. Сярод гарадоў, дзе праводзілася спецыяльнае гашэнне, і сталіца нашай рэспублікі.

Гашэнне праводзілася і ў горадзе Воткінску Удмурцкай АССР, дзе 7 мая 1840 года нарадзіўся вялікі кампазітар. У 50-я гады быў выпушчаны паштовы канверт з адлюстраваннем Дома-музея кампазітара ў Воткінску. Перад гэтым домам быў устаноўлены бюстпомнік (ён паказаны на канверце). Ні ў адным даведніку няма ўпамінання ні аб гэтым бюсце, ні аб тым, хто яго аўтар. А ім быў першы дырэктар Дома-музея М. Тутынін. Час не пашкадаваў гіпсавую аматарскую скульптуру. На больш позніх канвертах з адлюстраваннем гэтага музея ўжо няма таго бюста. Але ён быў, і філатэлія захавала яго след.

Расказваючы аб паштовых выпусках, прысвечаных П. Чайкоўскаму, варта нагадаць і пра тыя, якія выдадзены за межамі нашай краіны. У 1947 годзе паштовае ведамства Румыніі выпусціла серыю марак з партрэтамі выдатных дзеячаў навукі і культуры Румыніі і СССР. На адной з марак партрэт П. Чайкоўскага і яго факсіміле. На марцы Чэхаславакіі 1966 года, выдадзенай да 70-годдзя Чэшскай філармоніі, сярод імёнаў вядомых кампазітараў—імя Чайкоўскага. Паштовае ведамства Кубы прысвяціла некалькі марак балетам Чайкоўскага «Лебядзінае возера» і «Шчаўкунок», на марцы Гвінеі да 60-годдзя Кастрычніка—артысты рускага балета ў сцэнах з «Лебядзінага возера». Да 125-годдзя кампазітара пошта Манголіі выдала марку з партрэтам Чайкоўскага і сцэнай з «Лебядзінага возера».

**Леў КОЛАСАЎ.**



## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

Шукаецца **ЛЫЖНІК Богдан Іванавіч**, які нарадзіўся ў 1930 годзе ў сяле Дзянісаў Цярнопальскай вобласці Украінскай ССР. З 1961 года ён жыве ў Канадзе ў г. Таронта.

Яго шукае стрыечны брат **БАБІНЮК Яўген Назаравіч**, сын **Кузіў Мары Рыгораўны.**

Просім пісаць у рэдакцыю або на адрас:

**БССР, 247600, Гомельская вобласць, г. Хойнікі, вул. Карла Маркса, д. 10, кв. 27.**

**БАБІНЮКУ Яўгену Назаравічу.**

**ДАНІЛЕНКА Мікалай Яўгенавіч** шукае сваякоў у ЗША:

**КАМЕЙКУ Івана Міронавіча**, 1919 года нараджэння, які жыве ў г. Брукліне;

**КАМЕЙКУ Алену Міронаўну**, 1924 года нараджэння, якая жыла ў г. Сан-Францыска, г. Брукліне, а таксама іх дзяцей—

**КАМЕЙКУ Паўла Іванавіча**, прыблізна 1948 года нараджэння,

**КАМЕЙКУ Рыгора Іванавіча**, прыблізна 1953 года нараджэння.

Просьба да ўсіх, хто можа што-небудзь паведаміць пра названых асоб, пісаць у рэдакцыю або на адрас:

**БССР, 220131, г. Мінск, вул. Мірашнічэнкі, д. 29, кв. 33.**

**ДАНІЛЕНКУ Мікалаю Яўгенавічу.**

## ПАПРАЎКА

*У аб'яве «Вас шукаюць і чакаюць сваякі» («Г. Р.» № 19) зроблена памылка ў адрасе. Паўтараем аб'яву з папраўкай:*

Шукаюцца **МАЛЯКОВІЧ Уладзімір Мікалаевіч** і **МАЛЯКОВІЧ Лідзія Мікалаеўна**, якія нарадзіліся і жывуць у ЗША.

Іх шукае стрыечны брат, **МАРОЗ Валянцін Купрыянавіч**, сын роднага брата іх маці **МАЛЯКОВІЧ Лізаветы Мікалаеўны**, якая была родам з г. Капыля.

Просім усіх, хто можа дапамагчы ў іх пошуках, пісаць у рэдакцыю або на адрас:

**БССР, 220082, г. Мінск, вул. Прытыцкага, д. 46 кв. 180.**

**МАРОЗУ Валянціну Купрыянавічу.**


**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі

Індэкс 63854. Зак. № 687